Opłata pocztowa uiszczona ryczałtem.

Цана асобнага нумару 50 гр.

# Саха

Падпісная плата:
за год . . . . . 5 зл.
за паўгода . . . 3 зл.
за 3 месяцы . . 1 зл. 50 гр.

Адрэс Рэдакцыі і Адміністр.:
Вільня, Вострабрамская 9-22

Рэдакцыя прыймае ў справах часопісі ад 11 — 1 што дня апрача сьвят.

Беларускі Месячнік Сельскае Гаспадаркі і Коопэрацыі.

Выдавецтва Цэнтр. Саюзу Белар. Культурна-Асьветных і Гасп. Арганізацыяў і Інстытуцыяў.

№ 7 (11) | Вільня, Лістапад 1931 г. | Год II.

## Зьмест:



ДРУКАРНЯ Я. ЛЕВІНА, ВІЛЬНЯ, НЯМЕЦКАЯ 22.

98

Год II. № 7 (11)

# САХА

Беларускі Месячнік Сельскай Гаспадаркі і Коопэрацыі

Вільня Лістапад 1931

## Ад Рэдакцыі.

Прыступаючы да далейшага рэгулярнага выдаваньня свае часопісі, рэдакцыя лічыць патрэбным падзяліцца з сваімі чытачамі тымі думкамі, якія мае на мэце ажыцьцёвіць у бліжэйшай будучыне.

Плян нашае працы даўно прадуманы і быў-бы часткова зрэалізаваны гэтаю вясною, каб не такое цяжкае эканамічнае становішча, у якім апынулася рэдакцыя „Сахі".

Мелася на мэце сарганізаваць ахвотнікаў студэнтаў вышэйшых і сярэдніх школаў, якія маюць замілаваньне да с.-гаспадарчае культуры і падрыхтаваць іх на інструктараў дасьледчыкаў. Гэтыя інструктары мелі-б у часе летніх вакацыяў рабіць у сваіх раёнах досьледы, па інструкцыям, атрыманым ад рэдакцыі, каб потым з вынікам іх працаў можна было-б азнаёміць чытачоў „Сахі". Аднак, дзякуючы ўжо вышэйуспомненым эканамічным прычынам, гэты намер, хоць і не вымагаючы вялікіх выдаткаў, не зрэалізаваўся. Дык будзем-жа цяпер рыхтавацца да гэтае працы. Рэдакцыя ўжо прыймае крокі да рэгістрацыі студэнтаў, жадаючых заняцца інструктарскай працай, і будзе іх падрыхтоўваць у гэтым кірунку.

Але зьдзейсьненьня гэтага пляну ў вялікай меры будзе залежыць ад самых чытачоў і падпішчыкаў „Сахі". Тут нашы сяляне могуць прыйсьці нам з дапамогай наступнымі спосабамі:

1) калі будуць акуратна выпісваць нашу часопісь і заахвочываць да выпісваньня другіх. Такім чынам у нас у працягу зімы створыцца такі-сякі грашовы фонд, на які і можна будзе закупіць рознага насеньня, гнаёў і г. д.

2) найлепшыя вынікі з гэтае працы атрымаюцца тады калі селяне, апрача выпісываньня часопісі, будуць па-, сылаць у рэдакцыю лісты з запытаньнямі і апісаньнем, як дзе вядзецца праца, што добра, а што кепска родзіць, якія ўмалоты, як апрацоўваецца глеба і г. д;

і 3) калі само сялянства зацікавіцца гэтаю справаю і само пачне заводзіць дасьледчыя станцыі, якія час-ад-часу кантраляваліся-б спэцыялістамі - аграномамі з нашае рэдакцыі.

Вось гэта ўсё дасьць нам магчымасьць намеціць найпатрабнейшыя дасьледчыя працы і пакажа нам раёны, дзе якія доследы трэба рабіць. Дык прыступайма да працы сур'ёзна і хоць саматугам, але ўпарта ідзем да свае мэты.

**Рэдакцыя.**

---

**Шарль Жыд.**

# Коопэрацыя ці рэволюцыя*).

*(З працы „Коопэратыўны ідэал").*

Я прыпамінаю гутарку, якую меў з адным з правадыроў сацыялістычнай партыі. Ён даводзіў мне аб ня мінучасьці рэвалюцыі. Я адказаў яму: „Вы верыце ў рэвалюцыю (ён запраўды ў яе верыў), значыць вы ня верыце, што грамадзкасьць можа зьмяніцца толькі на падставе прыродных законаў і што гэтыя зьмены заўсёды ёсьць павольныя і мала прыметныя. (Сколькі вякоў трэба было дзеля таго, каб людзкасьць перайшла ад невольніцтва да паншчыны і ад паншчыны да найманае працы! Ці-ж можаце вы думаць, што рэвалюцыя адбудзецца за адзін дзень?".

Ён мне адказаў: „Эвалюцыю цалком можна злучыць з рэвалюцыяй і сама прырода дае нам прыклады гэтага. Паглядзеце на куранё, як яно расьце ў яйцы: яно ўтворваецца згодна з прыроднымі законамі, якія кіруюць эвалюцыяй усякае жывое істоты; але надыходзе дзень для выхаду з яйца—і яно прымушана разьбіць дзюбам скарлупу, якая сталася для яго турмою. Для кураняці — гэта цэлая рэвалюцыя! Тое самае і зрабочым людам. У той дзень, калі ён захоча цалком вызваліцца і выйсьці на сьвет Божы, ён мусіць сілаю разьбіць тоўсты мур законаў, старых звычаяў (прывілеяў?) і манаполіяў, якія ўтварыліся навакол яго за даўгі час і зрабіліся для яго

---

*) Перакл. з укр.,—„Кооп. Респ." № 2, 1931 г.

сапраўднай турмой; гэта будзе наша рэвалюцыя, у нашых інтарэсах і адбудзецца яна ў поўнай згодзе з прыроднымі законамі“.

Гэта быў быццам і добры адказ. Дазвольце мне сказаць вам, што я яму ў свой чарод адказаў. Няма сумліву, што дзеля таго, каб вылупіцца з яйца, куранё мусіць зрабіць сваю маленькую рэвалюцыю, як вы яе называеце, але яно намагаецца разьбіць сваю шкарлупу якраз тады, калі яно цалком дасьпела, вырасла пер'е, дзюб, кіпцюры, і вы бачыце, што ледзь толькі куранё вылупіцца з яйца, як яно ўжо бяжыць шукаць сабе ежу, падобна як яго бацька і маці! Калі-б яно разьбіла сваю шкарлупу на колькі дзён раней, то яно-б загінула. Вось-жа ўся справа ў тым, што трэба ведаць, ці належна сфармаваўся ў якійсь момант народ для новага жыцьця і для новых умоваў існаваньня, аб якіх ён марыць? І ён лепей зробіць, калі ня будзе разьбіваць шкарлупу, пакуль не набудзе пер'я, дзюбу і кіпцюры. Толькі коопэрацыя выгадуе іх, здабыўшы яму сродкі вырабу і навучыўшы абыходзіцца з імі! Кляса буржуазіі, трэці элемэнт, як яе называлі, мела сілу ўзяць у свае рукі эканамічнае кіраваньне грамадзкасьцю, бо ў запраўднасьці выконвала гэтыя функцыі ўжо перад тым, як зрабіла рэвалюцыю восемдзесят дзевятага году.

Калі я стараўся ўявіць сабе арганізацыю будучай грамадзкасьці,—разумеецца ў такой меры, паскольні пазваляе нам прадбачыць гэта нашае невялічкае знаньне,—то я сабе ўяўляю яго, як сілу асацыяцый розных катэгорыяў і разьмераў, вялікіх і маленькіх. Усе людзі, за выключэньнем невялікай колькасьці дзікуноў, бяруць у іх удзел па добрай волі; у гэтых асацыяцыях працуючым належаць усе прадукты іхняе працы ў поўнай меры, бо яны ўладаюць сродкамі прадукцыі; гэныя асацыяцыі зьнішчаць усіх пасрэднікаў, бо проста будуць абменьвацца між сабою сваімі прадуктамі; тыя асацыяцыі ўжо ня будуць нівэчыць адзінкі, бо індывідуальная ініцыятыва застаецца, як патаемная пружына, што будзе даваць рух кожнай з іх, наадварот, гэтыя асацыяцыі будуць бараніць, дзякуючы салідарнасьці, кожную асобу ад жыцьцёвых выпадкаў; — урэшце, гэтыя асацыяцыі ня будуць перашкаджаць творчасьці ды выяўленьню зручнасьці ў розных справах і тым самым зьменшаць канкурэнцыю і барацьбу, зьнішчыўшы большую частку прычын для сутычак, ахвяраю якіх у нашыя часы бываюць людзі. А тым часам, як зазвычай, яны не зьвяртаюць увагі на той факт, што коопэрацыя ёсьць свайго роду спосабам для зьнішчэньня гэнае барацьбы.

І запраўды, што такое ёсьць спажывецкае таварыства, як не руйнаваньне барацьбы паміж крамаром ды спажыўцом?

Што такое крэдытовае таварыства? Зьнішчаньне барацьбы паміж крэдытарам і даўжніком.

Што такое вытворчае таварыства? Зьнішчаньне барацьбы паміж працадаўцам і работнікам.

Вось мой ідэал. Я жадаў-бы, каб ён стаўся таксама і вашым. На мяне часта наракалі, быць можа і вы ў свой чарод будзеце наракаць за тое, што я малюю за вельмі ўздаленыя пэрспэктывы ко-

опэрацыі; мне казалі, што заместа таго, каб сьледам за Балінымі, узьнімацца да нябёс, было-б лепш, каб я парадзіў, як лепш залажыць якуюсь выгадную справу, як ляпей харчавацца ды галоўнае не пражываць грошы. Я, зазвычай, думаю, што ў гэнай крытыцы ёсьць доля праўды. Усім вядома, што калі хочуць ісьці наперад, дык няма чаго цягнуцца па зоры на неба, бо тагды можна зламаць сабе шыю. На кангрэсе коопэратыўных таварыстваў, які адбыўся ў мінулым годзе ў Туры, ганаровы галава Фрыдрык Памэ, закончваючы сваю прамову, радзіў коопэратарам быць мудрымі ды разважнымі: „Ня ўзірайцеся зашмат уверх—казаў ён — і, калі вы йдзеце па сходах, не падымайце нагі, пакуль другая нябудзе моцна стаяць“. Я падумаў сабе: гэта добрая парада, але за тое слухаючы яго, я прыпомніў адно здарэньне, аб якім мне часта апавядалі. Рэч ідзе пра тое, як малады матрос першы раз лез па драбіне на мачту і ён узапраўды трымаўся вось гэных парадкаў, якія я вам толькі што пераказаў. Ён узіраўся на свае ногі і перад тым, як падняць яе з ступенькі, узіраўся, куды трэба імі ступіць; так ён лез, пакуль не пачуў, што яму завінулася галава і што вось-вось ён упадзе. Ён ужо зусім зьнямогся, калі раптам капітан схапіў свой рупар і гукнуў: „Глядзі ўгару, тагды не ўпадзеш“!

Вось дзякуючы чаму кожны раз, калі я маю гонар зьвяртацца з прамоваю да коопэратараў, я ў свой чарод скажу ім: „Узірайцеся ўгару і вы не ўпадзеце“! Зразумела, закалыхваць народ утапічнымі марамі—ёсьць злачынства. Але абавязак кожнага — паказваць мэту ўсім тым, хто выйшаў на цяжкі ды калючы шлях і хто пачуваў-бы, што сіла і заўзятасьць зьнікаюць, калі прыходзіцца без конца ісьці ўгару і калі праз хмары не паказваецца раз у раз вяршок гары.

---

# Стараймася, каб дойная жывёла ў нас была запраўды дойнай.

Надыходзе зімовая пара, калі жывёла на доўгія месяцы стане ў хляве, калі з дня на дзень трэба будзе яе рэгулярна карміць. У гэты час гаспадару трэба добра прызадумацца, ці тая жывёла, якую ён мае, аплаціць той корм, які гаспадару прыходзіцца такою цяжкаю працаю запасіць на зіму. Такая дойная жывёла, якую трымае большасць нашага сялянства, бязумоўна сваім малаком, якое яна дае, не аплачвае ні корму, ні дагляду. Знача такую жывёлу няма чаго трымаць, бо трымаць толькі для гною няма ніякага вырахаваньня. Ляпей тады гэтыя харчы прадаць, а гнаіць поле зялёнымі і штучнымі гнаямі. Але палявая гаспадарка без хлеўнага гною ў нашых абставінах ня можа быць паступовай і ня можа даць задавальняючы даход гаспадару. Жывёлагадоўля ў нас мае ўсе падставы для свайго разьвіцьця. Вось-жа гадаваць жывёлу трэба, але такую, якая-б давала гаспадарчы зыск, а ня страту.

Многія могуць сказаць, што нашто ім жывёла высокай дойнасьці, калі малака няма куды збыць. Гэты закід да пэўнае меры мае слушнасьць. Але трэба самым тады пастарацца аб збыт. Трэба тварыць коопэратыўныя малачарні. Але калі-б нават з тых, ці іншых прычын, хутка коопэратыўнае малачарні арганізаваць і неўдалося, то, пры большай колькасьці малака, можна ім замяніць іншыя ежныя прадукты, як сала і мяса, а прадаваць сьвіней. Коратка кажучы, прадуктыўная жывёла, так ці інакш, заўсёды дасьць болей карысьці гаспадару. Знача, трэба старацца завясьці кароў добрай дойнасьці, якую трэба купіць ці выгадаваць.



Карова Нагетка Гловінскіх (Галічына). Малочнасьць 4762 кілёгр. 4% туч., атрымала другі сярэбраны дзяржаўны мэдаль.

Добрыя дойныя каровы вызначаюцца агулам такімі вонкавымі прыкметамі:

1) Здаровы выгляд, а разам з гэтым мае быць поўнасьцю відавочны самічны тып.

2) Прасторныя, шырокія і доўгія грудзі; робры павінны быць шырака растаўлены, каб паміж імі можна было ўлажыць 2-3 пальцы. Вялікую вагу мае крыж, які таксама мусіць быць доўгі і шырокі.

3) Вымя павінна быць вялікае, але не мясістае. Вымя ў добрае каровы выпуклае і ясна на дзьве паловы падзелена, струкі значна ад сябе аддаленыя і шылаватыя.

4) Добрай адзнакай зьяўляецца таўшчыня малочнае жылы, якая цягнецца ад вымені к грудзём і тут уваходзіць у бруха. У месцы ўваходу жылы ў бруха знаходзіцца ямка, якую завуць малочнай крыніцай. Чым гэтая ямка большая, тым лепей.

5) Скура таксама ёсьць добрым паказальнікам малочнасьці. Скура добрае каровы тонкая, пруткая і лёгка адстае ад цела, а на

шыі творыць шмат спускаючыхся ў ніз хвалдаў. Шэрсьць павінна быць кароткая і бліскучая.

На вонкавыя прыметы зусім пакладацца нельга і служыць яны могуць болей для ар'янтацыі, чым для ўстанаўленьня запраўднай малочнай здольнасьці каровы. Толькі кантроля малочнасьці пакажа нам запраўдную прадуктыўную здольнасьць каровы.

Апрача выбару добрых, дойных кароў, вялікую вагу для гадоўлі мае бугай. Адзін добры бугай можа павысіць малочную здольнасьць у нашчодкаў цэлае чарады. Ня здарма-ж добрыя гаспадары кажуць: „добры бугай — то палавіна чарады“.



Бугай Дорыс з Сэрачына, каторы атрымаў найбольшую нагроду ў 1929 годзе на гадаўляным пераглядзе. Праданы за 4050 злотых

Прыпускаць каровы трэба да такіх бугаёў, ад якіх нашчадкі будуць вызначацца большай малочнай здольнасьцю ад сваіх матак. Дзеля таго, што бацькі свае здольнасьці ў аднолькавай меры перадаюць нашчадкам, трэба, каб бугай быў ня толькі яскравым прадстаўніком расы, да якое належыць, але мусіць паходзіць ад бацькоў, якія вызначаліся вялікай малочнай здольнасьцю. Такія бугаі вельмі дарага каштуюць, але гэта гаспадароў нашых не павінна стрымліваць, бо бугая можна купіць аднаго, або два на цэлую вёску.

Ня трэба забываць, што толькі тады дойная жывёла будзе прыносіць карысьць, калі апрача адпаведнага корму і дагляду, жывёла будзе мець адпаведнае цёплае памяшчэньне. Калі жывёла стаіць у холадзе, то шмат спажытага ёю корму ідзе на аграваньне ўласнага цела і на вытварэньне належнай колькасьці малака ўжо не хапае пажыўных матэр'ялаў. Дык вось, стараймася перад маразамі аглядзець добра хлявы, каб па іх ня гуляў вецяр. Т. С.

# Адкорм сьвіней.

Здаецца, усім ужо павінна быць ведама, што пародзістая жывёла вызначаецца куды большай прадуктыўнасьцю, чым звычайная, простая. Ведама, што простая карова, як добра яе не кармі, усё такі дае мала малака, а пародзістая спажыты корм (калі яго даецца паддастатак) аплоціць найбольшай колькасьцю малака. Таксама і пародзістыя сьвіньні на той самы скормлены харч дадуць куды большы прырост, чым звыйчайныя сьвіньні.

Аднак, апрача пароды, на прадуктыўнасьць у вялікай меры ўплывае, зразумела, колькасьць і якасьць корму. Пакуль наш селянін вядзе яшчэ сваю гаспадарку прымітыўна, а патрэбнае разуменьне і прызвычаеньне здабываюцца ня хутка, дзеля таго мы падамо тут найагульнейшыя і найбольш даступныя для нашага селяніна парады для ўкорму сьвіней.



20-ці месячны заводзкі кнур з маёнтку Быхава.

Звычайна час укорму (тучненьня) дзеліцца на 3 пэрыяды:

Спачатку (1-шы пэрыяд) даюць сьвіньням яды ўдоваль, але ў склад яе ўваходзіць шмат грубых кормаў (мякіна, бульба ды інш.). З бегам часу, калі ў кармняка апэтыт пачне зьмяншацца, гэта можа быць сьведчаньнем, што тук пачаў адкладацца навокала кішок, а дзякуючы чаму праца страўнага праходу становіцца слабейшай. Вось у гэты час і трэба прыступіць да ўласнага тучненьня (2-гі пэрыяд). Аснаўным кормам у гэты пэрыяд зьяўляецца цеста, якое складаецца з мякіны, сыпкі і бульбы.

У дзенную кармавую порцыю кормнай сьвіньні, на кожныя 100 кгр. (6 п. 4 ф.) павінна быць дадзена адзін з чверцью да паўтары кгр. восыпкі і 4-5 кілгр. (10-12 ф.) бульбы.

Добры прырост і смачнае мяса дае восыпка ячменная. За ёй па якасьці ідзе аўсяная і жытная, хоць таксама добраю ёсьць і прасяная восыпка. Апрача таго, поўгадзіны перад ядою, або па ядзе даецца яшчэ пойла. Наагуль хутчэй сьвіньні тлусьцеюць і даюць смачнейшы прадукт тады, калі ў корм уваходзіць болей разнародных расьлінных прадуктаў. Для траўленьня добра прыдаваць тоўчаных драўляных вуглёў.

Урэшце корм папярэдні прыедаецца, у сьвіней паменшаецца апэтыт, тады трэба распачаць трэці пэрыад тучэньня. У гэты час трэба зьменшыць колькасьць бульбы. Радзіцца таксама для лепшага траўленьня даваць поў лыжачкі антымону.

Замест зьменшанай колькасьці бульбы трэба даваць зерне стручковых расьлін, як гарох, боб і г. д. Такім чынам, у трэці пэрыад даецца на 100 кгр. жывой вагі—паўтара кгр. восыпкі, 2 з паловай — 3 кгр. бульбы і каля паўтара кгр. зярнят стручовых расьлін.

Тую кармавую вартасьць, якую сьвіньні атрымоўваюць у 1 кгр. сярэдняга аўса, можна замяніць іншымі кармамі ў такой колькасьці.

| | | | |
|---|---|---|---|
| 1. | Сухой канюшыны . . . . | $2^1/_2$ | кілёгр. |
| 2. | Пшанічных высевак . . . | $2^1/_5$ | „ |
| 3. | Жытніх высевак . . . . | $1^3/_{10}$ | „ |
| 4. | Мякіны аўсянай . . . . | $2^1/_2$ | „ |
| 5. | Бульбы . . . . . . | $3^1/$ —4 | „ |
| 6. | Морквы . . . . . . | 7 | „ |
| 7. | Буракоў кармовых у сярэднім . | 10 | „ |
| 8. | Кармавой рэпы (турнэпсу) . . | $12^1/_2$ | „ |
| 9. | Ячменю . . . . . . | $^4/_5$ | „ |
| 10. | Жыта . . . . . . | $^4/_5$ | „ |
| 11. | Бобу, гароху і вікі . . . | 1 | „ |
| 12. | Канаплянае макухі . . . | $1^2/_5$ | „ |
| 13. | Ільняной макухі . . . . | $^4/_5$ | „ |

Колькасьць пададзеных кормаў ня ёсьць сталай, бо той самы род зярна ці сена ў розныя гады мае не аднолькавую кармавую якасьць, а дзеля таго гэтыя дадзеныя трэба прыймаць толькі як ар’ентацыйныя.

# Ахраняйма пладовыя дрэвы ад марозаў і зьвярыны.

Вясною гаспадару вельмі часта прыходзіцца бачыць, колькі шкоды прыносяць у працягу зімы нашаму саду марозы і розныя шкоднікі. Аднак, ня гледзячы на гэта, ня кожны гаспадар зварочвае ў пачатку зімы належную ўвагу на свой сад.

Далікатнейшыя садовыя дрэвы часта церпяць ад раптоўных марозаў, асабліва-ж іх вяршкі. А гэта з тае прычыны, што ў дрэве яшчэ не перасталі крушыць сокі. Лісьця з такіх дрэваў, звычайна ападаюць позна, а дзеля таго дасьведчаныя садаводы на такіх дрэвах абрываюць лісьця паступова загадзя і гэтым зьмяншаюць крушэньне сокаў. Лісьця абрываюцца не зараз, а патроху і такую опэрацыю можна паўтарыць пасьля дзесяці і больш дзён. Абрываньне лісьцяў ў сырую пагоду павінна быць як найпавальнейшае.

Аднак вышэйпрыведзены спосаб сам па сабе не заўсёды хавае расьліну ад губячага ўплыву марозу. Дзеля гэтага ўжываюцца яшчэ іншыя спосабы. Тут трэба зьвярнуць перш за ўсё ўвагу на сьнег і лісьця. Тыя далікатныя дрэўцы, якія можна прыгнуць да зямлі, прыгінаюць, прымацоўваюць, засыпаюць лісьцямі, а потым прыгарнуць сьнегам.

У тых кволых дрэваў, якіх нельга прыгнуць, дзякуючы таму, што яны крохкія, трэба забяспечыць ад марозу хаця карэньні. Мароз, пранікаючы глыбока да карэньняў і, у такі спосаб, ад'емна ўплываючы на іх жыцьцёвую дзейнасьць, укосна ўплывае ў тым самым кірунку на пень і гальлё. Бо ведама, што расьліны і зімою ня спыняюць свае жыцьцёвае дзейнасьці, хаця гэта дзейнасьць вельмі абмежавана. Найлепей абаронім карэньня ад марозу, калі наўкола пня з пачатку наложым пласт лісьцяў, а потым яшчэ пакрыем яго гноем.

Вялікія шкоды ў садзе робіць галалёд. Галалёд, гэта скарынка лёду на галінах і іншых прадметах, зьяўляецца насьледкам пэўнага стану пагоды. Але найчасьцей бывае, што галалёд зьяўляецца на тых дрэвах, якія знаходзяцца ў пабліжу рэк, сажалак, вазёр і г. д. Як у першым, так і ў другім выпадку, трэба вясьці барацьбу супроць галалёду. Спосабы, якія ўжываюцца для ахароны дрэваў ад шкадлівага ўплыву галалёду наступныя:

1) У невялікіх дрэўцаў пні і галіны абвязьваюць саломаю.

2) Малыя кусты абкрываюць саломаю і прыкрываюць бочкаю.

3) Пры сьценах вельмі лёгка прыкрыць матамі.

4) Часта на галіны з гэтаю мэтаю патрошку кідаецца балотняя сена.

Ня меншыя шкоды ад марозу нашым садам прыносяцца зьвярынаю, найчасьцей зайцамі. Раны, нанесеныя зайцамі, часта бывае немагчыма вылячыць. Найлепшаю і найбольш дагоднаю для расьліны ахаронаю ад зайцаў зьяўляецца салома і маты. Але з другога боку ў салому запіраюцца мышы, якія таксама шкодзяць дрэвам.



Добра забяспечваюць дрэвы ад зайцаў і мышэй галінкамі іглістых дрэваў, якімі наўкола абвязваюцца пянькі.

Мазаньне дрэваў рожнымі тлушчамі, як салам, дзёгцам, хоць і ахоўвае ад зайцаў, але шкодзіць самому дрэву. Лепшай абаронаю, якая ня толькі захоўвае ад зьверыны, але і добра ўплывае ў сэнсе абароны дрэваў ад марозу. Гэта бяленьне дрэваў вапенным малаком, зьмешаным з кароўім калам, мачою жывёлы і глінаю.

**З. К.**

# Практычныя парады пчаляром.

1) Ніколі ня варта ашчаджаць пры летнім падкормліваньні пчол мёдам (але ня болей 2 кілёграмы на калоду, дзеля таго, што досыць, каб узятак працягнуўся тыдзень-другі і пчолы ня толькі дапоўняць вытрачанае, але дадуць яшчэ добры прыбытак на мёду.

2) Патрэбна ранняе раеньне, да прыходу ўзятачнае пары, бо вялікія сямействы перад раеньнем нават падчас узятку неахвотна ляцяць у поля.

3) Ніколі ня варта пакідаць на зіму вульлі з старымі гнёздамі, вельмі перапоўненымі мёдам. Такія сямействы кепска працуюць як на патомства так і на мёд і наагул не дадуць толькі прыбытку, як сярэдніа калодкі.

4) Заўважана, што падчас гарачыні ў 25 град., у дуплах пчолы працуюць лепш, чым у складаных стаяках з ніжнім дном.

5) Вельмі карысна трымаць пчол раньняю вясною, да 10—20 чэрвеня і не далей, у лесе, дзеля таго, што раньнія кветкі дадуць пчолам магчымасьць раньняй набрацца сілы і знача раньней прыгатавацца да раеньня. Пасьля 20 чэрвеня калоды павінны стаяць у садзе ці ў полі.

---

**Спосаб супраць расклёўваньня курамі яец.** Гаспадыням добра ведама прывычка некаторых курэй расклёўваць яйкі; часта, дзякуючы гэтаму злому навыку, і добрую курку забіваюць. Аднак ёсьць вельмі добры спосаб на заўсёды адбіць ахвоту ў такое куркі кляваць яйкі. Спосаб, якім можна адучыць курэй ад кляваньня яец наступны:

Спачатку робіцца адвар чорнага перцу. Потым бяруць сырое яйцо, асьцярожна ў шкарлупе робяць дзірку і праз яе выпушчаюць жаўток і бялок, а замест гэтых астатніх напаўняюць шкарлупу адварам перцу і замазваюць дзірачку гіпсам ці чым-небудзь іншым. Так прыгатаванае яйцо кладуць у куратнік, і тая курыца, якая паправбуе гэтага яйца, на заўсёды адвучыцца ад свае прывычкі. Практычныя гаспадыні радзяць гэты спосаб, як найлепшы.

---

**Добры спосаб паправіць прагорклае масла.** Спосаб гэты палягае ў наступным:

Прыпсутае масла рэжэцца нажом на невялікія кускі, і, палажыўшы яго ў місу, трэба заліць параным малаком і пакінуць стаяць на паўгадзіны, потым дзеравянаю лапаткаю масла трэба добра перацерці ў гэтым малацэ (рукамі пераціраць ня варта).

Пасьля малако зьліць, масла лапаткай прапароць і ізноў зьліць. Калі масла вельмі прагоркла, то трэба гэту апэрацыю правесьці разы два—тры. Калі смак масла ўжо зусім добры, трэба яшчэ яго прамыць вадою выціснуць і ўлажыць ужо ў новую чыстую пасуду. Спосаб гэты радзім прабаваць і нашым гаспадыням.

# Хаты-мазанкі*).

Ня меней агнятрывалымі, цёплымі і доўгавечнымі зьяўляюцца й мазанкавыя будынкі. Робяцца яны гэтак: на месцы, дзе трэба класьці падмуроўку, капаюць раўчук. Раўчук павінен быць глыбей, чым прамярзае ўзімку зямла. У раўчуку, каля самай яго сьценкі, укопваюць слупы. Слупы ўкопваюць спачатку па вуглох, а потым на два аршыны адзін ад другога. Там-жа, дзе трэба ўстаўляць вокны і дзьверы, слупы ўкопваюць на шырыну вокан і дзьвярэй, каб потым можна было іх прымацаваць да слупоў. Слупы ўкопваюцца па магчымасьці адзін проці другога.

Слупы павінны быць з моцнага дзерава, калі можна — дубовыя, бо ім прыдзецца ўтрымліваць увесь цяжар будынку. Раней, чым укопваць, іх трэба апаліць, а, укопваючы, аблажыць бітаю цэглаю ці каменным друзгам і ўтаўчы шлягаю. Вышыня слупоў залежыць ад таго, якое вышыні хочуць ставіць будыніну. Угары на слупы кладуць бэлькі, насаджваючы іх на штылі, а абапал, пад раўчукамі кладуць па два бервяны, але так, каб адно ляжала над адным берагам раўчука, а другое над другім берагам.

Паставіўшы слупы і налажыўшы бэлькі, зразу-ж узводзяць страху, каб потым сьцены не моклі на дажджы й скарэй высыхалі. У раўчыку потым кладуць падмуроўку. Падмуроўку можна выкладаць з бітага каменя ці цэглы, заліваючы яго помесьсю двух-трох частак на адну частку гліны. Раўчук спачатку трэба запоўніць толькі на палавіну і ставіць у яго жэрдкі на 5-6 вяршкоў адну ад другой. Жэрдкі трэба ставіць паўз абодва бакі раўчука, а верхнія канцы іх прымацоўваць лазовымі калочамі да бярвён, што ляжаць на бэльках над раўчуком, застаўляючы іх з сярэдзіны. Паставіўшы і ўмацаваўшы такім парадкам жэрдкі, выводзяць далей падмуроўку, пакуль не зраўняюць з зямлёю. Такім чынам жэрдкі ўнізе будуць умацаваны ў падмуроўку.

Кончыўшы гэтую работу, пачынаюць паміж жэрдак плясьці плецянік з тонкіх і гібкіх прутоў. Пруты трэба ачысьціць ад гальля і глядзець, каб яны былі гладкія, роўныя й не кароткія. Плецянік трэба рабіць густа, шчыльна прыціскаючы адзін прут да другога. Адначасна ўзводзіцца два плецянікі,—знадворку і з сярэдзіны. Выплеўшы на поўаршына ад зямлі, абодва плецянікі з унутранага боку добра вымазваць помесьсю 2-3 частак гліны на адну частку пяску, прычым

*) А. Бараноўскі. „Змаганьне з пажарамі“.

у гэтую гліну прымешваюць яшчэ дробнай кастрыцы ці конскага гною.

Шчыліну паміж плецянікамі засыпаюць вапняком ці каменным друзгам і заліваюць помесьсю гліны з пяском (часьць на часьць). Калі-ж такіх матэр'ялаў няма, то засыпаюць сухою зямлёю, торфам або глінаю і добра яе ўтаўкаюць. Дзеля таго, каб па сьцяне не падымалася ўгару вільгаць, на падмурак, на пядзю ад зямлі, кладуць пласт у дзьве-тры столкі бяросты альбо толю. Гэты пласт кладзецца так, як і ў саманным будынку.

Плецянік потым выплятаюць вышэй, абмазваюць, як і раней, а шчыліну запаўняюць тым-жа матэр'ялам, і такім парадкам узводзяць сьцены да самага верху. Нельга выводзіць раптам усю сьцяну, калі яна робіцца з заліўкаю, налажыўшы пласт таўшчынёю ў поўаршына, трэба даць яму прасохнуць ня менш, чым суткі, дзеля чаго адну сьцяну кладуць тады, калі другая сохне, і наадварот.

Месца для вокан і дзьвярэй у сьценах не закладаюць, а калі сьцяна ўжо гатова, то высякаюць жэрдкі, устаўляюць шуфляды й ушак і прымацоўваюць іх да слупоў, што загадзя былі ў гэтых мясцох пастаўлены.

Бэлькі, на якіх высьцілаецца столь, кладуць толькі тады, калі сьцены добра ўлягуцца й сколькі трэба асядуць. Калі сьцены выводзіліся з зямлі ці гліны, то пад бэлькі кладуць падушкі — каменьня альбо драўляныя калодачкі. Палажыўшы бэлькі, дакладаюць сьцяну, каб яна была роўна з бэлькамі, і высьцілаюць столь.

Скончыўшы такім парадкам будову, сьцены знадворку і ў сярэдзіне добра вымазваюць тэй самай памешкай гліны з пяском, што й мазалі плецянік, потым даюць прасохнуць, і шчыліны, што зьяўяцца ад высыханьня, зноў змазваюць, сьцены згладжваюць, даюць канчаткова высахнуць і, урэшце, беляць вапнаю.

Калі-ж хочуць пабудаваць халодную будыніну, то сьцены выводзяць з аднаго плецяніка. Робіцца гэта так. Укопваюцца слупы, кладуцца бэлькі й страха, як і раней, толькі слупы ставяцца значна радзей, гледзячы на тое, якое велічыні мае быць будыніна. Да слупоў потым прымацоўваюць паземна (горызонтальна) жэрдкі на 12 вяршкоў адна ад другое. Жэрдкі нельга ўдзёўбаць у слупы, бо ад гэтага траціцца моцнасьць слупоў, а іх з унутранага боку прыбіваюць дачасна да слупоў гваздамі, а потым прыціскаюць да слупа другою моцнаю жэрдкаю. Для гэтага жэрдку адным канцом укопваюць у зямлю поруч са слупом, а другі яе канец угары поруч са слупом удзёўбаваюць у бэльку.

Умацаваныя такім чынам жэрдкі пераплятаюць доўгімі, у палец таўшчыні, ачышчанымі ад галья прутамі, і пераплятаюць так, каб верхнія іх канцы лажыліся абапал бэлькі, а ніжнія ўпіраліся ў зямлю.

Вывеўшы такім парадкам плецянік, сьцены потым абмазваюць глінаю з пяском, сушаць, абмазваюць шчыліны і беляць. Пад сьцяну кладуць невялічкі падмурак, у 3-4 рады апаленае цэглы альбо каменьня, абмазваюць глінаю й робяць скацістую прызбу.

Сьцены ў адзін плецянік можна выводзіць яшчэ, ставячы жэрдкі стойма ўгару, для чаго ўнізе іх укопваюць у зямлю, а ўгары з унутранага боку прыбіваюць гваздамі ці прывязваюць калачамі да бэлькі. Усё астатняе робіцца так, як было сказана раней.

Там, дзе многа расьце чароту, жэрдкі можна пераплятаць чаротам, толькі тады яны ставяцца зусім блізка адна ад другое.

---

# Розныя прыметы, з якіх можна судзіць аб пагодзе.

**Прыметы холаду і марозу.**

Калі ў часе ўсходу ці захаду, асьветленыя сонцам воблакі будуць колеру крывава-чырвонага, бледныя або зялёна-жоўтыя, то можна спадзявацца, што наступіў час ветраны і сьнежны.

* * *

Калі сонца ў часе захаду бывае чырванейшае і сьвятлейшае, чым звычайна, а да таго яшчэ і вецяр з усходу, або поўначы, трэба чакаць моцных і вострых халадоў.

* * *

Калі месяц днёў тры па маладзіку, або поўні будзе цёмны або крывава-чырвоны, можна спадзявацца вялікага холаду.

* * *

Ясна сьвецячыяся зімою зоркі на небе праракуюць моцныя марозы.

* * *

Калі з пачатку зімы пачынае мерзнуць з сьнегам або крупамі, то такая пагода можа пратрываць даўжэйшы час.

* * *

Ад паўночных і ўсходніх вятроў наступае холад і мароз.

* * *

Малы дробны град, выпаўшы на пачатку зімы, сьведчыць, што наступяць халады.

* * *

Маразы, пачаўшыяся пры ветру з усходу, трываюць даўжэйшы час.

* * *

Калі падае сьнег дробны і ценкі, то маюць за ім зараз-жа наступаць вялікія халады.

* * *

Калі зімою бывае шмат сьнегу, то ёсьць надзея на добры ўраджай і наадварот, — калі падаюць дажджы.

---

# Дробныя парады.

### З кары розных дрэваў можна прыгатаўляць фарбу.

З наступных, болей у нас пашыраных дрэваў, пры жаданьні можна прыгатаваць добрую фарбу, зусім забяспечваючую хатні ўжытак:

1) Бярозавыя галінкі мочацца ў вадзе, да якое дадаецца галын (alun) і потым варацца; атрымоўваецца фарба жаўтавата-зялёная.

2) Вывар з кары граба фарбуе палатно ў колер аранжавы.

3) Кара яблані дае такжа фарбу аранжавую.

4) Кара крушыны, сьвежа гатаванай, дае жоўтую фарбу.

5) Кара сьлівы дае жоўтую фарбу.

6) Крушына таксама дае жоўтую фарбу.

7) Топаль, ясакар дае жоўтую фарбу.

8) Кара чаромухі дае зялёную фарбу.

9) Кара топаля белага вараная з купарвасам дае зялёную фарбу.

10) Кара чорнага клёну з вісмутам дае чырвоную фарбу.

11) Кара вольхі, гатаваная з купарвасам дае трывалую чырвоную фарбу.

12) Вярба белая; высокае дзерава. Кара гатаваная ў лузе, дае чырвоную фарбу.

13) Кара ясеня дае блакітную фарбу.

### Кароста ў авечак.

Хваробу гэтую выклікаюць асобныя каростныя кляшчы. Найбалей пашыраецца кароста восеньню і зімою, калі авечкі стаяць у цесных і душных памешканьнях. Летам хвароба аб'яўляецца радзей, дзеля таго, што гарачая і сухая пагода не спрыяе разьвіваньню клешчоў.

Хворыя авечкі значна ўбываюць на вазе, а скрабучыся выдзіраюць на сабе шэрсьць, чым псуецца шкурка.

Лечаць ад каросты розным спосабам. Зімою заліваюць каросьлівыя мейсцы скіпідарам. У цёплую-ж пару году авец стрыгуць і потым мыюць у адвары табакі. З пэўнасьцю можна вылечыць ад каросты авец, калі купаньне ў адвары табакі паўтарыць некалька разоў тады нішчацца і тыя кляшчы, якія вылупяцца з яечак пасьля першага мыцьця.

# З беларускага жыцьця.

— **Канцэрт-вечарына.** У суботу 5-га сьнежня Бацькоўскі Камітэт Віленскай Беларускай Гімназіі ладзіць Канцэрт-вечарыну на карысьць незаможных вучняў гімназіі. Канцэрт адбудзецца ў салі гімназіі.

— **Стыпэндыяльны фонд для беларускага студэнства.** Пры Бел. Нац. Камітэце ўтварылася камісія па арганізацыі „Стыпэндыяльнага фонду для беларускага студэнства“.

— **Сьвяткаваньне 11-ых угодкаў Слуцкага Паўстаньня.** У нядзелю 15-га лістапада г. г. у Вільні ў залі мейскай адбылася ўрачыстая акадэмія, прысьвечаная 11-м угодкам Слуцкага Паўстаньня У 1920 годзе. Селяне Случчыны ў месяцы лістападзе—сьнежні вялі азброеную барацьбу за незалежнасьць Беларусі супраць Маскоўскай арміі.

— „Novajà Varta“— пад такім загалоўкам выйшла новая часопісь, орган Беларускай Студэнскай Корпарацыі „Scorinia“. Зьмест першага нумару наступны: 1) Ад рэдакцыі; 2) Леў Сапега, вялікі канцлер Літоўскі; 3) У дарозе да новага жыцьця. Вершы маладых беларускіх пісьменьнікаў А. Бартуля, Хв. Ільяшэвіча і іншыя артыкулы. Рэдакцыя месьціцца пры вул. Міцкевіча 11—9. Цана асобнага нумару 1 зл.

— „**Голас Праваслаўнага Беларуса**“. Выйшаў № 1 новай часопісі, выдаванай групай праваслаўных беларусаў. Цана асобнага нумару 50 грошаў.

— „**Сьветач Беларусі**“. Выйшаў № 3 (6) гэтае часопісі.

— Зачыненая пачаткавая беларуская школа ў Шаўлянах Браслаўскага павету дастала ад Куратара дазвол на далейшую чыннасьць.

---

— **Пажары.** На падставе ўрадавага аблічэньня ў Віленскім ваяводзтве ў мінулым годзе было 418 пажараў. Згарэла 116 хат, 68 гаспадарскіх будынкаў, 14 лазьняў, 18 стайняў і 42 гумны са збожжам.

— **Напад ваўкоў.** 9 кастрычніка г. г. чарада ваўкоў напала на двор Зайцава Браслаўскага павету. Задушана 20 авец.

---

Адказны Рэдактар: М. ІЛЬЯШЭВІЧ.
Выдавец: Цэнтр. Саюз Бел. Культ.-Пр. і Гасп. Арганіз. і Інстытуцыяў.